

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1992
КАСТРЫЧНІК
13
Аўторак
№ 194 (379)
Цана
1 рубель


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

● ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

## САДРУЖНАСЦЬ БУДЗЕ ЖЫЦЬ. А НАРОД?

ПАВЕЛ ВАРАБ'ЁЎ.

**Учора адбылася прэс-канферэнцыя Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Кебіча з нагоды вяртання іх з сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД у Бішкеку.**

Як адзначыў Станіслаў Шушкевіч, сустрэча была падрыхтавана добра, дакументы, прапанаваныя для абмеркавання, не мелі патрэбы ў дапрацоўцы: іх або падпісвалі, або не.

Асноўныя праблемы, разгледжаныя ў Бішкеку, раздзяліліся на тры блокі: памяншэнне эканамічнага ўзаемадзеяння, вайсковае пытанне, выпрацоўка Статута СНД.

Што датычыць Узброеных Сіл, рэспубліка далучылася да ўсіх пагадненняў, якія не супярэчаць законам Беларусі. Тут варта адзначыць характэрны падыход, выказаны С. Шушкевічам: «Не трэба рабіць выгляд, што ўдзельнічаем у прыняцці рашэння там, дзе гэта не адбываецца на самай справе». Шчыра і сумленна. Ва ўсялякім выпадку ёсць спадзёўка, што стварэнне бутафорскага іміджу і прыманне ўласнага нараду ў дурнях не ўваходзіць у намеры гэтага палітыка. І калі сферу палітыкі мы вызначаем як мастацтва магчымага, то С. Шушкевіч паказвае сябе паслядоўным практыкам - рэалістам. У тым ліку і па такому балючаму пытанню, як увядзенне ўласнай валюты.

З пункту патрыятычнага, увядзенне нацыянальнай валюты можна расцэньваць як свята, але арыфметычна для большасці людзей сёння гэта абернецца стратамі. «І мы да апошняй магчымасці, — сказаў С. Шушкевіч,—будзем трымацца захавання рублёвай прасторы».

Між тым апошні тыдзень рэспубліка літаральна ўзбуджана чуткамі аб тым, што рублі «ляснуць». Адкуль загарэлася? Як прызнаўся В. Кебіч, між ім і Я. Гайдарам сапраўды была тэлефонная размова аб лёсе рубля. Але ніхто не гаварыў аб яго скасаванні. Што за зламыснік падслухаў размову двух кіраўнікоў урадаў і пусціў плётку? А, можа, падтрымліваючы народ у стане нярвовай узбуджанасці вакол перспектыў далейшага росту галечы, лягчэй «замяць» пытанне ўздыму эфектыўнасці вытворчасці? Прывык жа народ тлумачыць рост цэнаў адзіна расійскай нафтай і ўжо нават і не пытаецца: «А што вы зрабілі, панове выканаўчая ўлада, каб прыпыніць разбурэнне эканомікі?!»

Як ні стараліся журналісты даведацца тэрміны «абвалу» рубля, гэта не ўдалося. В. Кебіч спаслаўся на дзяржаўную тайну, супакоіўшы тым, што ёсць пэўная працэдура па ўвядзенню ўласнай валюты. Згодна ёй, рэспубліка павінна папярэдзіць аб тым другія краіны Садружнасці за шэсць месяцаў. Кебіч пры гэтым не сказаў, за які тэрмін будзе папярэджаны просты люд Беларусі.

Няма ніякай яснасці і з забеспячэннем рэспублікі нафтапрадуктамі. Квота Беларусі на пастаўку нафты пакуль не вызначана. Але, па словах В. Кебіча, Гайдар стараецца...

Пакуль кіраўнік расійскага ўрада стараецца, Беларусі належыць выпрацаваць дамоўленасць аб эксплуатацыі нафтапрамысловых вышак у Расіі, з якіх больш за 3,5 тысячы знаходзіцца ў занядбаным стане.

Наступная сустрэча лідэраў СНД адбудзецца 4 снежня ў Мінску.

● «МІНСКІ КІРМАШ»

## ОБЕЩАЛ ВЫСОКИЙ УРОВЕНЬ...

АНДРЕЙ ПОТРЕБИН, «ДВ».

**На этой неделе, с 14 по 17 октября, в нашем городе в комплексе «Минскэкспо» (пр. Машерова, 14) состоится, очевидно, наиболее серьезное коммерческое мероприятие года — Международная универсальная ярмарка «Мінскі кірмаш». На ней будут представлены производственно-техническая продукция, оборудование, сырье, стройматериалы, разнообразные товары и продовольствие из всех стран СНГ, Балтии. Будут изделия многих совместных предприятий и фирм Европы и Азии. Радует, что для государственных торговых организаций вход на ярмарку — свободный, а фирма «Мінскі кірмаш» пообещала, несмотря на все сложности, поддержать на высоком уровне организацию торговли и условия для работы гостей. Немудрено — Минская ярмарка стала престижной и занимает прочные лидирующие позиции среди таких известных ярмарок, как Сибирская и Нижегородская.**

● НАПЯРЭДАДНІ



## МАРЫЯ ГУЛЕГІНА ЗНОЎ У МІНСКУ

ТАЦЦЯНА АЛЯКСАНДРАВА.

**САПРАЎДЫ так: 14 кастрычніка знакамітая спявачка дасць на сцэне ДАВТа РБ вялікі канцэрт з аркестрам тэатра. За дырыжорскім пультам будзе маэстра Г. Праватораў, з якім у М. Гулегінай склаўся цесны творчы кантакт. Усе сродкі ад канцэрта пойдуць у фонд «Дзеці Чарнобыля».**

**Гэта будзе першае пасля трохгадовага перапынку і, спадзяёмся, не апошняе выступленне спявачкі на сцэне ДАВТа.**

**Прыемна адзначыць, што творчы шлях М. Гулегінай пачынаўся ў нашым тэатры. Як салістка тэатра яна паспяхова выступала на ўсесаюзным і двух міжнародных конкурсах, тут іграла свае першыя ролі, у гэты час пачалася яе зорная вядомасць.**

**У 1987 годзе М. Гулегіна ўпершыню выступіла на сцэне Міланскага тэатра «Ла Скала», выканаўшы партыю Амеліі ў оперы Дж. Вэрдзі «Баль-маскарад». На гэтай жа сцэне яна спявала ў операх «Два Фоскары» Дж. Вэрдзі, «Тоска» і «Манон Леско» Дж. Пучыні. Тут адбыўся і сольны канцэрт спявачкі, у якім яна выконвала творы П. Чайкоўскага і С. Рахманінава.**

**Партыя Тоскі стала выдатным дасягненнем М. Гулегінай. Спецыяльна для яе былі прывезены касцюмы Марыі Калас з Лонданскага музея вялікай спявачкі. У гэтай жа партыі Гулегіна дэбютавала ў 1991 годзе на сцэне «Метрапалітэн-опера» (спектаклем дырыжыраваў П. Дамінга). А зусім нядаўна па запрашэнню мастацкага кіраўніка Марыінскага тэатра Валерыя Гергіева яна прымала ўдзел у нью-йоркскіх гастролях тэатра (выконвала партыю Лізы ў «Пікавай даме» П. Чайкоўскага).**

**Зноў вітаючы М. Гулегіну на сцэне нашага тэатра, пажадаем спявачцы новых поспехаў на оперных сцэнах свету, цікавых сустрэч, а сімпатыі мінскіх меламанаў заўсёды належаць ёй.**

### ІНФАРМБЮРО

**КАЛЯНДАР**

ВОСЕНЬ. 287 ДЗЕНЬ ГОДА.
СОНЦА ўзышло ў 7.32, зойдзе ў 18.19. Даўжыня дня 10.47.
МЕСЯЦ — поўня.

**ІМЯНІНЫ**

СЕННЯ: Міхаіла, Грыгорыя, Эдуарда, Геральда.
ЗАЎТРА: Рамана, Савы.

**ЯК ПАВЕДАМІЎ ГІДРАМЕТЦЭНТР**

СЕННЯ ў 11 гадзін у Мінску быў 1 градус марозу. Ціск 745 мм ртутнага слупа. Адносная вільготнасць 61 працэнт. Вецер паўночна - заходні — 5 — 10 м/сек.

ЗАЎТРА ў Мінску чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, раніцай і днём невялікія ападкі. Тэмпература паветра ноччу — 5—7 градусаў марозу, днём — 3—5 градусаў цяпла.

● ДОСЬЕ «ДВ»

## ИНДЕКСЫ ЦЕН

ПО ДАННЫМ МИНГОРСТАТУПРАВЛЕНИЯ

**ПО СРАВНЕНИЮ с сентябрем 1991 года цены на потребительские товары и услуги возросли почти в 12 раз. Продукты питания подорожали на 11,9 процента. Маргарин и маргариновая продукция — на 86, яйца — на 80, мука — на 96, макаронные изделия — на 23, хлеб и хлебобулочные изделия — на 50 процентов.**

**На 8,1 процента поднялись цены на непродовольственные товары. Заметно подорожали шелковые ткани (на 43,8 процента), табачные изделия (на 47,8).**

**В целом за 9 месяцев 1992 года розничные цены на продовольственные и непродовольственные товары выросли почти в 10 раз.**

**В среднем в 8 раз по отношению к сентябрю 1991 года выросли рыночные цены, к примеру, животное масло и свинина — в 9 раз, капуста, картофель, свекла — в 13, кабачки, тыква — в 16 раз.**

**При падении спроса на платные услуги цены на них за 9 месяцев текущего года возросли более чем в 8 раз.**

**Значительно (в 33 раза) выросла плата за содержание детей в детских садах. В 24 раза дороже обходятся услуги здравоохранения, в 21 раз— санаторно-курортные.**

## ОФИЦИАЛЬНАЯ СТАТИСТИКА

● **НА ПЕРВОЕ сентября 1992 года в Минске проживал 1 миллион 677 тысяч человек.**

● **ЗА ВОСЕМЬ месяцев в городе родилось 13140 детей, умерло 8158 человек. Естественный прирост населения сократился на 26,6 процента.**

● **В ВОЗРАСТЕ до одного года умерло 160 детей.**

● **С НАЧАЛА года зарегистрировали брак 8348 пар, число разводов —5740.**

● МІНГАРСАВЕТ: ПАЧАЛАСЯ СЕСІЯ

## ЧАРГОВАЯ, ДЗЕСЯТАЯ

Улас. інф. «ДВ»

**Сёння ў 10 гадзін раніцы пачала сваю работу дзесятая сесія Мінскага гарадскога Савета. Ёсць падставы спадзявацца, што за час даволі працяглых парламенцкіх вакацый (калі не лічыць аднадзённай дзевятай сесіі) дэпутаты паспелі сабрацца з думкамі і сіламі і плённа папрацаваць на карысць горада. Дарэчы, прыемнае ўражанне пакінуў парадак дня — не вялікі, грунтоўна распрацаваны, які можна рэальна выканаць. Асаблівую цікавасць выклікае пытанне аб статусе горада Мінска — сталіцы Рэспублікі Беларусь. Падрабязная інфармацыя ў наступных нумарах.**

● ПАВЕДАМЛЯЕ РІД

## КІТ З НАЧЫНКАЙ

ЛЮДМІЛА ГРАМОВІЧ, РІД.

НЕМАГЧЫМА ўявіць жыццё нашых малышоў у дзіцячых садках без нянек, плюшавых мішак, канструктараў, машын. Толькі вось у дэфіцыце зараз разумныя цацкі, ды і цэны надта куслівыя. Выхаванцам дзіцячага садка № 216 Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі пашанцавала. Кожную раніцу іх будуць сустракаць абаяльныя і вельмі падобныя на жывых кенгуру, мядзведзь, малпа, вясёлыя героі заакіянскіх мульцікаў. Пакоі для гульняў напоўніліся дзесяткамі самаробак, гульнямі, маляўнічымі наборамі для аплікацый, лепкі, малявання. А было ўсё гэта ўпакавана ў... вялікага — тры метры ў даўжыню і каля паўтара метра ў вышыню, з плаўнікамі і вусамі Кіта. Зроблены ён з дрэва і спецыяльнага кардона і прыбыў разам з гуманітарным грузам з Канады.

Падарунак адправілі даўнія партнёры Беларускага дзіцячага фонду, прадстаўнікі замежных дабрачынных арганізацый «Глабальная дапамога», «Глабальнае руханне і развіццё» Норман Янг і Шэрлі Макдональд.

● ПЕРЕКРЕСТОК

## ДОРОГА — НЕ РУЛЕТКА...

Л. СИЗЫХ, ГАИ УВД Мингорисполкома.

**ДО ОПАСНОГО отважен стал наш минский пешеход. В этом убеждаешься всякий раз, наблюдая, как люди, группами и поодиночке, бросаются в сплошной поток автомобилей.**

**Сотрудники Госавтоинспекции Минска всерьез взялись за пешеходов. На перекрестках, городских магистралях постояннно дежурят патрули ГАИ. Да только результат пока что не велик. Трудно порой дается разговор с пешеходом. Одна из проблем — время, которое тратит инспектор на каждого нарушителя. Так, одна из задержанных, гражданка Ивлева заявила: «Денег нет, штраф платить нечем». Значит, надо установить личность, место работы, оформить протокол, отправить бумагу по месту работы или в суд для взыскания штрафа.**

**Иные дамочки, выскочив к инспектору буквально из-под колес автомобиля, отмахиваются от стража порядка и на всю улицу кричат: «Что вы ко мне пристаете!»**

**С начала года сотрудниками Госавтоинспекции города Минска оштрафовано более 100 тысяч пешеходов. Однако положение остается тревожным.**

**По вине пешеходов совершено 262 аварии, 38 человек погибли, 232 были травмированы. В 100 дорожно-транспортных происшествиях пешеходы находились в нетрезвом состоянии.**

**«Сделал всего один шаг в полосу движения автомобиля и был им сбит, — пояснил пенсионер Рожков Василий Сергеевич. — Свою вину признаю, так как переходил дорогу вне пешеходного перехода».**

**А вот сторожа детского сада № 382 Богдановича Александра Михайловича сбила с панталыку не только водка, которую он употребил накануне, но и протоптанная тропинка на площади Казинца. «Как увидел автобус, растерялся и хотел вернуться назад, но было уже поздно, — рассказывал он. — А потом визг тормозов, удар, больничная койка».**

**Одним словом, положение таково, что исключительно деятельностью ГАИ его не исправишь. Транспортный поток нарастает с каждым днем.**

**Риск тех, кто нарушает Правила дорожного движения, сегодня заметно возрастает. И все же пешеходы остаются верны себе. Они отчаянно бросаются в поток машин, спеша на работу, в гости, к троллейбусу, уверенные в том, что именно с ними несчастье не произойдет. А если?..**

● ЗАПРАШАЕМ!

## ШКОЛА ЮНАГА КАРЭСПАНДЭНТА

**ПРЫ ФАКУЛЬТЭЦЕ ЖУРНАЛІСТЫКІ БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА ЗАПРАШАЕ ВУЧНЯЎ 9—11 КЛАСАЎ, ЯКІЯ МАРАЦЬ АБ ЖУРНАЛІСЦКАЙ ПРАФЕСІІ, НА АРГАНІЗАЦЫЙНЫ СХОД**

**15 КАСТРЫЧНІКА ў 18.00**

**ПА АДРАСУ: Г. МІНСК, ВУЛ. СВЯРДЛОВА, 7, АЎД. 406.**

● СПОРТ



## ЗНАЙ НАШИХ!

Фото Р. КОБЯКА, БЕЛИНФОРМ.

1005 подъемов за 59 минут и 56 секунд совершил минчанин гиревик Вячеслав Хоронеко. Этот результат был зафиксирован судьями во время телепередачи «Спортивный клуб «Силач». Тысячи телезрителей смогли наблюдать в воскресенье в прямом эфире борьбу семикратного чемпиона Беларуси, победителя кубка СНГ 1992 г. с двухпудозой гирей.

Это уже третий мировой рекорд, установленный Вячеславом. Результат будет внесен в книгу рекордов Гиннесса.

**НА СНИМКЕ: президент Федерации силовых видов спорта, заслуженный тренер Беларуси Виктор Федорович КОВАЛЕВ (слева) поздравляет своего воспитанника Вячеслава ХОРОНЕКО, улучшившего мировой рекорд.**

● ДОСЬЕ «ДВ»

## ТОРГОВЛЯ: ЦИФРЫ И ФАКТЫ

Соб. инф. «ДВ».

*За 8 месяцев нынешнего года объем розничного товарооборота по г. Минску сократился в сопоставимых ценах на 32 процента по сравнению с прошлым годом. Это вызвано не только ростом цен, но и недостатком многих товаров. Неудовлетворенный спрос сохраняется на кожаную обувь, женские колготы, пальто демисезонные и зимние из шерстяных и смесовых тканей, утепленные куртки, головные уборы из фетра, стиральные машины, пылесосы, телевизоры, электрокофемолки. Весь этот перечень включает в себя 90 наименований товаров.*

***

*В то же время установлено, что многие промышленные предприятия реализуют большую часть продукции не через госторговлю, а коммерческим структурам, которые затем продают товар населению с большой «накруткой». Особенно распространена эта практика на ПО «Атлант», «Горизонте», Минском фарфоровом заводе и других.*

***

*Материалы госторгинспекции говорят о росте нарушений правил торговли. За 9 месяцев этого года выявлено 828 обсчетов, обвесов покупателей, случаев припрятывания товаров и т. д.*

***

*Кстати, положение самой торговли оставляет желать лучшего. Вся продовольственная сеть сейчас убыточна. Долги на сегодняшний день составляют 11,6 млн. руб. Уровень рентабельности непродовольственной сети составляет 2,1 процента к товарообороту. А для нормальной работы эта цифра должна составлять 8 процентов. Ведь, чтобы приобрести товар, магазину надо произвести предоплату. А гастрономам не мешает и новое оборудование, например, холодильные камеры, которые почти во всем городе сегодня крайне изношены.*

***

*Средняя зарплата продавцов в прошлом месяце составила: в продовольственной сети — 1,8 тысячи рублей, в непродовольственной — 3,1 тыс. руб.*

***

*В этом году уменьшились поставки в г. Минск: мяса — на 30 тыс. тонн, сахара — 20 тыс. тонн, обуви — 2 млн. пар, холодильников — 7000 штук.*

***

*В 1992 году в Минске должно было появиться 10 новых магазинов, но открыто всего 3. Некоторые из остальных семи даже не начинали строиться. Камнем преткновения стали финансы.*

***

*В следующем году должно перейти на аренду около 36 магазинов.*

***

*Расформирован «Спорткультторг», вместо него в столице появилось 8 самостоятельных арендных предприятий, каждое из которых включает несколько магазинов. Не существует больше и «Хозторга», его заменили 4 арендные предприятия и 18 магазинов, которые ушли на аренду с правом дальнейшего выкупа.*

***

*За 4 месяца госторгинспекция изъяла в коммерческих структурах нелегальную прибыль в размере 1 млн. 50 тыс. руб.*

***

*За продажу сахара коммерческим структурам руководство базы «Белбакалея» освобождено от занимаемой должности. Госторгинспекция передала материалы проверки базы в прокуратуру.*

***

*Возможно, скоро в райисполкомах появятся отделы по управлению торговлей, которые будут наделены функциями госторгинспекции. Видимо, это будет весьма кстати. Ведь в областной инспекции всего 9 человек проверяют работу не только предприятий госторговли города, но и многочисленных коммерческих структур. Справиться с таким объемом работы, понятно, инспекторам не по силам.*

● ФАКТ

## ДОРОГОЕ УДОВОЛЬСТВИЕ — ПРЕССА

СЕРГЕЙ ЮРЬЕВ, репортер «ДВ».

**В ОДНОМ из номеров «Добры вечар» сообщал, что наконец-то можно будет подписаться на иностранные издания.**

**Как стало известно, с 1 ноября «Белсоюзпечать» начнет оформлять заказы на получение прессы из Европы и США. Заказать можно любое количество номеров, точнее — на сколько денег (читай—валюты) хватит.**

● КРИМИНАЛ-СЛУЖБА «ДВ»

*АНАТОЛИЙ БЕЛОУС, корреспондент «ДВ».*

### КАК ВОХРу СПИТСЯ, ЧТО ЕМУ СНИТСЯ!

*В ТАКОЕ смутное время здоровый сон у наших сограждан можно только приветствовать. Правда, не при исполнении... Да еще, когда тебе поручены значительные материальные ценности. Должно быть, пренебрегли этой заповедью работники ВОХРа завода вычислительной техники. И поплатились Поутру, 8 октября цеха предприятия недосчитались никелевых анодов на сумму около 60 тысяч рублей.*

*Как кошмарный сон будут вспоминать эту ночь и служащие военизированной охраны завода «Термопласт». В местном клубе, сигнализация которого выведена на пульт охраны, также погостили злоумышленники. Сюда они проникли через окно. Открытия клуба дожидаться не стали, прихватили два видеомагнитофона с кассетами и благополучно отбыли.А что? Может, их репертуар коммерческого телевидения не устраивает...*

### ИЩИТЕ «ЗЕБРУ»

*ПЕЧАЛЬНЫМИ известиями отмечена в этот день и сводка ГАИ. Штрафы после прибавления нескольких нулей вроде как охладили пыл водителей, но пешеходов еще не проняло... Маршрут двоих из них завершился в больничных палатах. Одна драма разыгралась на десятом километре кольцевой дороги. Здесь под колеса «Жигулей» угодил молодой человек, проигнорировавший пешеходный переход. В другом случае, но уже на улице Есенина, с жизнью чуть не распрощался пятилетний мальчик. Конечно, в таком возрасте не всякий еще имеет представление о «зебре» на дороге. Но куда смотрели родители этого сорванца?*

### ОТ МИЛИЦИИ — ТОЛЬКО ТРУСЦОЙ

*ЗА ИНЫМ правонарушителем не угонишься. Завидев стражей порядка, они и пускаются взапуски. Нужно полагать, вволю набегался и самовольно оставивший ЛТП города Светлогорска гражданин П. Но в четверг вечером дорогу ему перешел участковый инспектор Московского РОВД. Тот снова, понадеявшись на свои ноги, попытался сигануть. Но не растерялся и милиционер, раздался предупредительный выстрел.*

### КТО ПОСЕЕТ ВЕТЕР...

*А СЛЕДУЮЩИЙ факт дает повод и позлорадствовать... Сколько газетной площади, эфирного и телевизионного времени изведено на убеждения — не оставляйте ключи под ковриками. И все напрасно. По крайней мере, эту аксиому так и не усвоил один из жильцов общежития, что по Велосипедному переулку. И был наказан. Того же 8 октября, обнаружив в «положенном» месте ключ, выгоду для себя извлекли неизвестные. Пока хозяин отсутствовал, они устроили «ревизию» его вещам и деньгам. А теперь — ищи ветра в поле...*

